PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ" 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 17 (1824) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 28 КРАСАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)




*Прэзідыум З'езда: (злева) Валянцін Голубеў, Міхась Ткачоў, Лявон Баршчэўскі, Зянон Пазняк, Юры Хадыка.* *Фота Алеся Крышталовіча.*

## II З'ЕЗД БНФ

Прайшоў ён у Мінску, 23—24 сакавіка г.г. Папярэдні, як памятаем, праводзіўся ў Вільні — у Мінску ўлады не дазволілі. Зараз у мінскім гарадскім савеце дамінуюць сябры і прыхільнікі Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", таму магчыма было зусім легальна абсправіць з'езд зусім „нелегальнай" арганізацыі. БНФ далей не зарэгістраваны, але гэта як бы не турбавала нікога з дэлегатаў. Фронт на з'ездзе аформіўся як грамадска-палітычны рух выразна антыкамуністычнага характару, таму аб яго легалізацыі камуністамі не было аніякай гутаркі.

У з'ездзе прынялі ўдзел 443 дэлегаты, прысутнічалі 170 гасцей і 50 журналістаў беларускіх, савецкіх і замежных сродкаў масавага пераказу.

23 сакавіка (субота) сярод найважнейшых пунктаў павесткі дня: палітычны даклад Зянона Пазняка, прыняцце новага Статута, вылучэнне кандыдатаў у Сойм БНФ.

24 красавіка: галасаванне, дыскусія, прыняцце ўхвалаў.

Пытанне кардынальнае для БНФ — чаму за больш чым два гады існавання Фронт не стаў масавым народным рухам — старшыня З. Пазняк у сваім дакладзе растлумачыў так: у Беларусі амаль поўнасцю знішчана грамадзянская супольнасць людзей і згублена кансалідуючая нацыянальная ідэя. Насельніцтва рэспублікі аб'яднанае адно сацыяльнай экзістэнцыяй і нявольніцтвам, яно пакуль што нездольнае да калектыўных дзеянняў. Гэта вымушае на БНФ наступнае чаргаванне прыярытэтаў: адраджэнне і кансалідацыя нацыі — дасягненне нацыянальнай свабоды — эканамічнай рэформы. Гэта тлумачыць, чаму эфектыўнасць дзеянняў Фронту нельга вымяраць такімі меркамі, як эфектыўнасць дэмакратычных рухаў у Прыбалтыцы ці нават у Расіі. Якія тады галоўныя вынікі працы БНФ за два мінулыя гады? 1. Пераварот у свядомасці людзей. 2. Крах камуністычных ідэй. 3. Усведамленне людзьмі неабходнасці свабоды і незалежнасці Беларусі. 4. Адкрыццё праўды аб Чарнобылі. 5. Пачатак фармавання грамадзянскай супольнасці Беларусі (утварэнне партый, рухаў, саюзаў, грамадскіх арганізацый). Пры ўсім магутным супрацьстаянні партыйна-бюракратычнага апарату ўлады БНФ удалося давесці да сведама людзей Беларусі, што Фронт — гэта апазіцыя камунізму (сваю 27-асабовую фракцыю дэпутатаў БНФ мае ў Вярхоўным Савеце). На сучасным этапе змагання дасягненне сапраўднага суверэнітэту Беларусі павінна стацца першасным, дэкамунізацыя грамадства — другасным. У БНФ-аўскай тактыцы акцэнты павінны перамясціцца з палітычнай ангажаванасці на ўпарадкаванне ўласных структураў, асветніцтва, інфармацыю і друк. БНФ з 1988 года — гэта канфедэрацыя дэмакратычных людзей, БНФ у 1991 годзе можа і павінен стацца канфедэрацыяй дэмакратычных партый, што ўзніклі за апошні час на Беларусі. Гэтыя два падыходы, на думку З. Пазняка, сумяшчальныя ў Фронце. Ён запрапанаваў рэарганізаваць структуру Сойму БНФ, выдзяляючы ў ім 50% месцаў для прадстаўнікоў тэрыторый, партый і арганізацый, якія захочуць выступаць разам, захоўваючы суверэннасць у межах сваіх статутаў і незалежнасць у сваім дзеянні.

У сувязі з вышэй сказаным праца над прыняццём Статута вялася якраз з улікам гэтай новай акалічнасці. Статут быў прыняты ў даволі канкрэтызаваным выглядзе: ахарактарыза-

**(Працяг на стар. 4)**

## БРАВА БІЯPOL

Калі я быў у 1987 годзе ў Амерыцы і ездзіў па розных амерыканскіх гарадах, каб спаткацца з беларусамі, ніяк не мог выступіць з просьбай адносна ўфундавання амерыканскімі беларусамі камп'ютэра для кафедры Беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Цяжка мне было выступаць з такой ідэяй таму, што ўсюды я звяртаўся з просьбай даваць грошы на Беларускі музей у Гайнаўцы. Неяк было няёмка да адной просьбы дадаваць яшчэ і другую. Тым болей, што ўсе беларусы ў Амерыцы — гэта людзі працы і хочуць ці не хочуць мусяць моцна лічыць заробленыя грошы. А тым часам камп'ютэр быў кафедры патрэбны дазарэзу. Па-першае, кожны студэнт павінен запазнацца з такой прыладай, як камп'ютэр, бо ў іншым выпадку будзе сімвалам адсталасці і антысучаснасці. Па-другое, супрацоўнікі Кафедры працуюць над двума слоўнікамі: „Слоўнікам мікратапаніміі ўсходніх і паўночных земляў Польшчы" і „Вялікім беларуска-польскім слоўнікам". Работа над такімі слоўнікамі без камп'ютэра можа нагадваць працоўку зямлі пры дапамозе вала і сахі.

Варшаўскі універсітэт — установа бедная і таму ніяк не мог купіць такой малой адзінцы як кафедра беларускай філалогіі сучасны камп'ютэр. У такой сітуацыі мы маглі толькі чакаць паўцуда. І такі паўцуд стаўся. Паўтара месяца таму назад шэф беларуска-польскай фірмы **БІЯПОЛЬ** — Яўген Салагуба сказаў, што ён зможа падарыць нам камп'ютэр. Мы верылі і не верылі. Аднак дванаццатага сакавіка паўцуд стаўся рэальнасцю. Яўген Салагуба асабіста прывёз нам камп'ютэр з каляровым маніторам і друкаркай вартасцю ў 15.000.000 зл. і дзесяць запасных дыскаў. Я з вялікай прыемнасцю і з пачуццём удзячнасці падпісаў пратакол перада-

**(Працяг на стар. 4)**

## На мяжы

— 36 —

Вядома, што ў часе папярэдніх выбараў у Сейм, калі можна было без перашкод ставіць сваіх кандыдатаў, некалькі беларусаў прыступіла да выбарчай кампаніі. Сярод некаторых беларускіх дзеячоў праявіўся настрой эйфарыі. Выказвалі яны думку, што прынамсі адзін з нашых кандыдатаў будзе абавязкова выбраны ў Сенат. А быць можа будзем мець таксама пасла ў Сейме.

Рэчаіснасць не падцвердзіла такога энтузіязму. Кандыдаты ад „Салідарнасці“ на галаву пабілі нашых кандыдатаў. Зрэшты, па-другому і не магло быць. Характар выбарчых акругаў быў такі, што беларус у ніякім выпадку не мог прабіцца ані ў Сейм, ані ў Сенат. Аднак і ў беларускіх асяроддзях далёка не ўсе выбаршчыкі падтрымалі нашых кандыдатаў. Набралі яны па сутнасці невялікую колькасць галасоў у параўнанні з галасуючай беларускай масай. У ніякім выпадку прыблізна дваццаць тысяч галасоў, якія атрымалі Яновіч і Мірановіч, нельга назваць вялікім дасягненнем. З гэтага вынікае, што на нашых кандыдатаў галасаваў, можа, кожны трэці, можа, кожны чацверты, а можа, кожны пяты беларус. Для мяне асабіста найбольш прыкрай нечаканасцю было тое, што не звязаны з Беласточчынай ні паходжаннем, ні нацыянальнасцю кандыдат Мартынюк атрымаў столькі ж галасоў, што сын Беласточчыны Яновіч. Праўда, у канцы канцоў два беларусы

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Аляксей Семянюк і Яўген Чыквін, якія кандыдавалі не ад нашага Таварыства, але якіх мы падтрымалі, атрымалі прыблізна па 30 тысяч галасоў і апынуліся ў Сейме.

Памятаю перадвыбарчы перыяд. Сядзеў я неяк у сядзібе гміны ў Міхалове за сталом, на якім валяліся праграмы паасобных кандыдатаў у Сейм і Сенат. Было іх там болей дзесяці, аднак не было нашых кандыдатаў. Маючы час, я ўсе праграмы дакладна прачытаў. Прачытаў і ад здзіўлення схапіўся за галаву. У гэтых праграмах было ўсё: і абарона асяроддзя, і абарона сям'і, і барацьба за танныя ўгнаенні, і змаганне за добрыя школы, і змаганне за малыя падаткі. Аднак у ніводным не знайшоў я хаця б аднаго слова ў абарону беларусаў, аб іх этніцы, рэлігіі, сакральным будаўніцтве, асвеце. Аніводнага слова! І таму я ўсумніўся ў добрую волю і кампетэнцыю тых шматлікіх кандыдатаў, якія рваліся ў Сейм і Сенат.

Як вядома, выбары ў Сейм, а бадай і ў Сенат будуць прыспешаны. Людзі ўжо ведаюць, ці ў мінулых выбарах выбралі добра і ці паслы і сенатары добра змагаюцца за іх інтарэсы. Здаецца мне, што ў многіх выпадках людзі моцна расчараваны сваімі прадстаўнікамі ў найвышэйшых органах і думаю, што толькі невялікі працэнт старых паслоў і сенатараў будзе выбраны другі раз.

А якія перспектывы беларускіх кандыдатаў? Невялікія пры сённяшнім выбарчым праве. Калі не ўдасца нацыянальным меншасцям атрымаць акрэсленую колькасць месцаў у Сейме і Сенаце, дык шанцы нашы малыя. На Беласточчыне сярод беларускіх выбаршчыкаў найбольшую колькасць галасоў атрымае Цімашэвіч, аб гэтым сведчаць шматлікія выказванні і дэкларацыі жыхароў вёсак і мястэчак.

Калі, аднак, беларусы атрымаюць акрэсленую колькасць месцаў у Сейме і Сенаце, тады распачнецца вострае змаганне паміж кандыдатамі-беларусамі. Мяне асабіста цешыць такая перспектыва. Нарэшце хаця ў адным наблізімся да заходнееўрапейскіх норм і парадкаў.

Вольныя выбары! Гэта тое, аб чым павінен марыць кожны народ і кожная нацыянальная група. Хто ведае, быць можа, у атмасферы свабоднай перадвыбарчай ігры і я ўключуся ў выбарчы аркестр. Бо вядома, што больш ганарова ў свабодных выбарах прайграць, чым у несвабодных выйграць. Ці ж не сняцца нам передваенныя часы, калі ў польскім Сейме была моцная беларуская фракцыя, у якой верхаводзіў Тарашкевіч. Праўда, сёння, мабыць, і са свечкай не знойдзем сярод нас чалавека, які б напамінаў гэтую светлую і гордую постаць беларуса.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Мінскі страйкавы камітэт** у чацвер (18 красавіка) заявіў, што было прынята рашэнне **аднавіць страйк у наступны аўторак (23 красавіка),** бо перамовы з беларускім урадам зайшлі ў тупік, а палітычныя патрабаванні бастуючых былі праігнараваныя. Іхнім галоўным патрабаваннем да Прэзідыума Вярхоўнага Савета было склікаць пазачарговую сесію. Удзельнікі перамоваў ад ВС адмовілі ў выкананні гэтага пункта.

**Ідзе падрыхтоўка да візіту папы Яна Паўла II у Беластоку.** Вырашаны ўжо спосаб арганізацыі дарожнага руху **5 чэрвеня г.г.** Беласток будзе падзелены на тры зоны, у якіх дарожны рух будзе часткова абмежаваны або спынены. За вулічным рухам у горадзе сачыць будзе 600 паліцыянтаў. Ваяводская публічная бібліятэка арганізуе выстаўку „Ян Павел II у медальерным і кніжным мастацтве“. Парафіі разводзяць сярод усіх ахвотных уваходныя білеты на набажэнства з удзелам папы.

**Члены секты Сведкі Яговы** рыхтуюцца да сваіх вясенніх рэлігійных сходаў. У гэтым годзе праводзяцца яны пад лозунгам „Зважайце і захоўвайце цвярозую развагу!“. **У Беластоку сход адбудзецца на стадыёне ў Звярынцы 11 і 12 мая г.г.** Прадбачваецца ўрачыстасць хрышчэння і публічны даклад „Дзейнічаць разумна ў неразумным свеце“.

**На Беласточчыне прабывалі прадстаўнікі французскай кансультатыўнай фірмы „SODETEG“ — Наэль Гале і Лявон Шыманец** (апошні з'яўляецца дзеячом Хаўруса беларускіх работнікаў у Францыі), якія рыхтуюць рапарт для французскага ўрада наконт магчымасцей інвеставання ў паўночна-ўсходнім рэгіёне. Госці правялі размовы з самаўрадавымі і тэрытарыяльнымі ўладамі Беластока, Супрасля, Бельска-Падляшскага, Гайнаўкі і Белавежы.

**У Варшаве праходзіў XIII кангрэс Таварыства польска-савецкай дружбы,** які пасля змены назвы арганізацыі пераўтварыўся ў **I кангрэс Таварыства Польшча — Савецкі Саюз.**

**1 мая з'яўляецца выхадным днём** — паінфармаваў Дэпартамент арганізацыі і ўмоў працы Міністэрства працы і сацыяльнай палітыкі.

**Марк Дзмітрук з Бельскага беларускага ліцэя** апынуўся ў групе пяці вучняў, якія будуць прадстаўляць Беластоцкае ваяводства на цэнтральных элімінацыях XVII Алімпіяды па гісторыі. Віншуем пераможцу і яго настаўніцу **Таісу Бялецкую.**

**Злачынец Ян С., які падпаліў царкву на Грабарцы, знаходзіцца ў арышце.** Пасля ўступных псіхіятрычных абследаванняў выявілася, што трэба правесці больш доўгія назіранні і з гэтай мэтай быў ён 7 лютага перавезены ў Варшаву. Часовы арышт Яна С. прадоўжаны да 31 мая г.г. Як заявіла Ваяводская пракуратура, следства набліжаецца да канца.

## Аб'явы

Вазьму ў арэнду дом або пакой на вёсцы для навуковай працы. Звaніць у рэдакцыю „Нівы“.

## Наша пошта

### ЛІСТ У СПРАВЕ Б. ТАРАШКЕВІЧА

Як мы ведаем з газеты „ЛіМ“, беларуская інтэлігенцыя час ад часу атрымлівае пакрысе насалоду... Ёй дазваляюць пісаць і гаварыць аб людзях, пра якіх раней замоўчвался.

Хто ім гэта дазваляе — у пару ўсё-такі галоснасці, — мы не ведаем.

Вось што мы чытаем у „Хроніцы адраджэння“ ў „ЛіМ“-е № 5 ад 1 лютага 1991 года, с. 2.

„Апошнім часам БТ паказала тры літаратурныя перадачы аб нядаўніх персонах нон-грата ў нашых сродках масавай інфармацыі: нарэшце прыпаднята жалезная заслона ў дачыненні да постацей В. Ластоўскага, Я. Дылы, Б. Тарашкевіча. Гэта робіць гонар стваральнікам перадач!“

Дык вось, аказваецца, чаму Акадэмія навук БССР, членам якой быў Бранiслаў Тарашкевіч як філолаг ад пачатку 1929 года, не збірала яго прац! Нават яго прамоў у Сейме (34 выступленні). А займаўся ён і навуковай, і літаратурнай працай. Пісаў на розных мовах: артыкулы ў беларускіх і польскіх газетах, праект аўтаноміі Заходняй Беларусі, праграма Грамады, перапрацоўка беларускай граматыкі, пераклад „Пана Тадэвуша“ Міцкевіча, поўны пераклад „Іліяды“ і г.д. і г.д.

Зараз я магу, на жаль, дапамагчы толькі ў адным. Лічачы, што многія беларусы захочуць даведацца, што сам Браніслаў Тарашкевіч пісаў аб сабе ў Маскве (ведаючы ўжо, што ўсе кіраўнікі Грамады арыштаваны), перадаю дакладны адрас, дзе можна атрымаць яго дзве біяграфіі — першую, якую ён пісаў у 1933 г. і другую — з 1936 г.

Пішыце ў Маскву ў Інстытут марксізма-ленінізма і патрабуйце матэрыял: **Автобиография Бронислава Адамовича Тарашкевича, фонд 495, опись 252, ед. хранения 3808.**

**Аляксандра Бергман**
Варшава, 7.IV.1991 г.

## ІНФАРМ-ЦЫЯ

**для кандыдатаў на беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце.**

У сёлетнім, 1991/1992 навучальным годзе памяняліся прынцыпы прыёму студэнтаў на беларускую філалогію ў Варшаўскім універсітэце. Зараз кандыдатаў не абавязвае ўступны экзамен. Падставай прыняцця на навуку будзе кваліфікацыйная размова перад камісіяй. Размова датычыць наступных спраў:

1. Свабодны абмен апіній на літаратурныя і мовазнаўчыя тэмы з польскай або беларускай мовы, прапанаваныя галоўным чынам кандыдатам.

2. Свабодныя выказванні кандыдата на тэму сучаснай Польшчы і Беларусі (штодзённае жыццё, літаратура, друк, грамадскія і палітычныя здарэнні, польска-беларускае гаспадарчае і культурнае супрацоўніцтва, уражанні з асабістых кантактаў).

Заняткі на беларускай філалогіі ВУ ад навучальнага года 1991/92 будуць пашыраны заняткамі з паланістыкі (як пабочны прадмет).

## Чаму беларускіх выданняў няма ў кнігарнях?

У апошні час „Ніва" нярэдка інфармуе аб новых кніжках нашых „белавежцаў". Нядаўна паказаўся таксама „Беларускі каляндар" на 1991 год. Слова „паказаўся" пішу ў двукоссі, бо кожны раз вестку пра новае выданне БГКТ канчае тая самая фармулёўка: „Можна іх купіць у БГКТ і ў рэдакцыі „Нівы". Значыць, што ў 260-тысячным Беластоку прадаюцца яны аж у двух месцах. Здаўна турбуе мяне пытанне: чаму „Беларускі каляндар" і іншыя выданні на беларускай мове, якія легальна друкуюцца ў Польшчы, не прадаюцца ў кнігарнях і кіёсках? Ці можа гэта камусьці не падабаецца, ці нехта забараніў? Кажуць, што цяпер у нас ужо плюралізм і дэмакратыя. А на „ўсходняй сцяне" ўсё па-старому. Я вельмі здзіўлены, што БГКТ, а таксама БДА не стараюцца выкарыстаць новую палітычную сітуацыю, каб пашырыць круг чытачоў беларускай кнігі. Іду ў заклад, што ў падвале будынка ГП БГКТ або ў іншым месцы ляжаць сотні, мо тысячы экзэмпляраў календароў і кніжак на беларускай мове, не прададзеных толькі таму, што патэнцыяльны чытач ніколі іх на вочы не бачыў. Магчымасці БГКТ дужа замалыя, каб замяніць нармальную сетку продажу, якой карыстаюцца кнігі на польскай мове. Адсутнасць „Беларускіх календароў" і іншых выданняў БГКТ у кнігарнях і кіёсках на Беласточчыне гэта яўны прыклад дыскрымінацыі нацыянальнай меншасці. Нашто выдаваць кніжкі, якіх не прадаюць? Гэта кніжка павінна шукаць чытача, а не наадварот. Большасць беларусаў палітыкай і грамадскай дзейнасцю не займаецца, гэта нармальныя запрацаваныя людзі, якія не маюць ні часу, ні ахвоты шукаць кніжкі і календары ў Галоўным праўленні ці ў рэдакцыі, а ў кнігарнях часам бываюць і ў кіёсках газеты купляюць. Купілі б і „Беларускі каляндар", мо і томік беларускіх вершаў, калі б ён там быў. У мяне толькі два пытанні: хто перашкаджае паставіць беларускія кніжкі ў кнігарні і кіёскі і ці нельга яго перамагчы, хаця б цераз самыя высокія трыбуны, з Сеймам уключна?

*(Прозвішча і адрас да ведама рэдакцыі)*

## ІНФАРМАЦЫЯ
### ДЛЯ ЧЫТАЧОЎ У БЕЛАРУСІ

**Галоўнае праўленне БГКТ паведамляе, што распаўсюджваннем „Беларускага календара на 1991 год" у Беларусі займаецца Гродзенскае абласное аддзяленне Савецкага фонду культуры, г. Гродна, вул. Ажэшка, 49, тэл. 452627.**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Старая хата ў вёсцы Сямёны. Малюнак У. Петрука.*

## БРАВА БІАPOL

**(Працяг са стар. 1)**

чы з ніжэй прыведзеным тэкстам:

Niniejszym stwierdza się fakt darowizny w postaci:

Komputer IBM AT nr (HD-KA 94656)

Drukarka STAR LC-15 nr 482001202868

Dyskietki DS szt. 10

Przekazujący: PPHU BIAPOL Sp. z o.o., 02-216 Warszawa, ul. Starościńska 18.

Przyjmujący: Katedra Filologii Białoruskiej Uniwersytetu Warszawskiego, Warszawa, ul. Szturmowa 3.

Przekazujący zastrzega, aby w/w urządzenia były wykorzystywane do celów dydaktycznych i nie mogą być bez jego zgody przekazywane lub odsprzedane innym jednostkom organizacyjnym lub osobom fizycznym. Jednocześnie strony ustaliły, że użytkownik umieści w polskim sprzęcie napis reklamujący firmę BIAPOL.

Na przekazany sprzęt Przekazujący udziela 6-miesięcznej gwarancji.

W załączeniu kopia faktury dotycząca zakupu sprzętu.

І так засталося нам толькі акаваць бляхай дзверы пакоя, у якім будзе стаяць камп'ютэр, і заінсталяваць у акне вентылятар, бо камп'ютэр, хоць і прыехаў да нас з паўднёвай Азіі, не любіць цяпла і прападае за халадам.

Вялікая карысць ад камп'ютэра праявіцца ў тым, што пасля таго, як прывучым да яго студэнтаў, змогуць яны перапісваць на ім свае магістэрскія работы. А гэта вельмі сур'ёзная справа, бо ў студэнцкай кішэні застанецца 300-350 тысяч злотых, якія сёння трэба даць машыністцы, калі яна будзе перапісваць магістэрскую працу.

Заканчваючы, не магу яшчэ раз не выявіць глыбокай удзячнасці фірме **БІЯПОЛЬ** і яе шэфу Яўгену Салагубу, які нашу мару ператварыў у рэчаіснасць.

Пры нагодзе хачу ціха сказаць, што да поўні шчасця не хапае нам яшчэ ксеракса, на якім можна было б размножваць напісаныя тэксты.

І яшчэ адно. Фірма **БІЯПОЛЬ** вядзе свае інтарэсы таксама на тэрыторыі Беласточчыны. Вядома, што беларусы з пэўнай боязю адносяцца да ўсіх прыватных ініцыятываў. Ад сябе аднак я хацеў бы сказаць:

Не бойцеся суполкі **БІЯПОЛЬ.** Ёй можна верыць!

Загадчык кафедры
Беларускай філалогіі
Варшаўскага універсітэта
дац. д-р габ. **А. Баршчэўскі**

## II З'ЕЗД БНФ

**(Працяг са стар. 1)**

ваць яго можна як статут „супер партыі" дэмакратычнага і антыкамуністычнага накірунку.

Быў выбраны Сойм БНФ (лікам 49 асоб — 50% яго асабовага складу — так званае прадстаўніцтва ад „шырокага" Фронту). 50% было пакінута эвентуальнаму прадстаўніцтву сканфедэраваных партый і арганізацый. У Сойм БНФ поўнасцю ўвайшла фронтаўская дэпутацкая фракцыя ў Вярхоўным Савеце. Рашэнне гэтае выклікае ў мяне столькі ж адабрэння (Фронт узмоцніў свой палітычны патэнцыял людзьмі, якія зараз набылі ўжо пэўны палітычны вопыт на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі), колькі і насярогі (на плечы гэтых мужных і самаадданых людзей ускалі яшчэ адзін агромністы цяжар). Старшынёю Сойма быў выбраны Зянон Пазняк (ён не меў контркандыдата ў галасаванні), ягонымі намеснікамі Юры Хадыка (паўторна), Валянцін Голубеў і Уладзімір Заблоцкі (абодва яны БНФ-аўскія парламентарыі). Адвёў сваю кандыдатуру папярэдні намеснік Міхась Ткачоў (зараз ён лідэр Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады), застаючыся пры тым сябрам Сойма.

Дыскусія на другі дзень вакол палітычнага даклада і праграмнай заявы (на з'ездзе абмяркоўваўся якраз дакумент такога тыпу, а не поўная распрацаваная праграма руху), шчыра кажучы, шмат у чым не задаволіла мяне. Не атрымалася сур'ёзнай гаворкі якраз аб гэтай новай канцэпцыі Фронту-канфедэрацыі: прадстаўнікі нова створаных партый і арганізацый як бы пазбягалі адназначнай дэкларацыі наконт гэтага пытання. Пераканаўча за такой канцэпцыяй Фронту выказаўся народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Новыя партыі, калі захочуць быць партыямі парламенцкага тыпу, раней ці пазней сутыкнуцца з „беларускім парламентарным парадоксам": камуністычная (КПБ) парламентарная большасць па сутнасці выражае інтарэсы меншасці, а парламентарная меншасць — інтарэсы большасці, па сутнасці — інтарэсы народа. Правілы парламентарнай гульні не прадугледжаны ніякім кодэксам, ідэя беларускага парламентарызму апынулася ў тупіку. Прытым атрафія палітызаванасці беларускага грамадства ў апошні час як бы пашыраецца, грамадская свядомасць застаецца далей на ўзроўні сацыяльнасці. Усё гэта не спрыяе самавызначэнню палітычных плыняў, зародкі якіх створаны, таму супольны фронт дэмакратычных сілаў вымушаны акалічнасцямі часу і грамадскай сітуацыі на Беларусі. Не атрымалася сур'ёзнай гаворкі і аб эканамічнай будучыні рэспублікі. Апроч агульнага накірунку раздзяржаўлення і прыватызацыі, выражаных у праграмнай заяве, нічога канкрэтнейшага я не ў змозе нашым чытачам паведаміць. Трэба спадзявацца, што праграмная камісія БНФ

# У турысцкі сезон з дозай аптымізму!

**Турызм, як і ўся наша дзяржава, перажывае крызіс. У Белавежы ў мінулым годзе зарэгістравана толькі 70 тысяч наведвальнікаў, г.зн. на 50 прац. менш, чым у 1989 г., зрэшты, таксама не найлепшым. А як будзе ў бягучым годзе? Першы яго квартал уліў у сэрцы белавежцаў, жывучых з турызму, а прынамсі падзарабляючых на ім, крыху аптымізму. Праз мястэчка прамільгнула каля 6,5 тысяч чалавек, у тым ліку 500 асоб з заграніцы (з 17-ці дзяржаў). На гэты раз на 50 прац. больш, чым у першым квартале 1990 г. Праўда, замнога цешыцца нельга, бо аб усім вырашаць летнія месяцы, але ўсё-такі ў будучыню можна пазіраць смялей.**

**Сёлета Белавежа спецыяльных атракцыёнаў для турыстаў не рыхтуе, але нейкія навінкі будуць. Вось, напрыклад, кіно „Зубр" думае аб тым, каб у сезоне дэманстраваць экскурсіям дакументальныя і асветныя фільмы, якія здымаліся раней у Белавежскай пушчы. У 70-тых гадах такія сеансы карысталіся даволі вялікім поспехам. Выйдзе таксама з друку турысцкі даведнік з-пад пяра белавежскага вучонага д-ра Чэслава Аколава. У продажы ўжо паявіліся паштоўкі са звярамі і плакаты на прыродазнаўчыя тэмы (даволі танныя!). Рыхтуюцца і іншыя выданні. Паявіліся новыя пункты продажу сувеніраў.**

**У Палацовым парку арганізоўваецца батанічны агародчык, у якім будуць дэманстравацца больш цікавыя віды раслін, якія растуць у белавежскіх нетрах.**

**А пакуль што найвялікшым атракцыёнам для турыстаў астаецца векавая пушча.**

Тэкст і фота **ПЯТРА БАЙКО**



патрактуе эканамічныя пытанні ў праграме з найвышэйшым прыярытэтам.

А чаму? Прыклад Беларусі, самай саветызаванай і нацыянальна „індыферэнтнай" рэспублікі СССР, наяўна паказвае відавочную праўду: дэкампазіцыя Саюза, калі ўвогуле наступіць, наступіць якраз па эканамічных прычынах. У гэтым працэсе першасную ролю адыграюць не ідэі дэмакратызацыі, нацыянальнай кансалідацыі (прымат нацыянальнай дзяржавы над канцэпцыяй „сацыяльнай імперыі" на эканамічным узроўні трэцяга свету), але якраз філасофія „поўнага гаршка і даўжэйшай каўбасы". Калі так, то што гэта азначае для Беларусі? Гэта азначае пабудову суверэннай дзяржавы (зараз цяжка вызначыць тыя межы суверэннасці). у якой кансалідуючая нацыянальная аснова будзе, прынамсі напачатку, адыгрываць нязначную ролю. Прыярытэт будзе такі — праз „эканамічны нацыяналізм" да суверэннай (незалежнай) нацыянальнай дзяржавы беларусаў. І пытанне непазбежнае і ўжо актуальнае: хто гэта будзе будаваць? Няўжо ть'я ж камуністы з КПБ?

Адказ, які можна даць тут, у Беластоку, з улікам эвалюцыі ў польскай дзяржаве, гучыць наступна (у Мінску, пры наяўнасці татальнага антыкамунізму, нават зрабіць нейкі намёк у гэты бок з'яўляецца немагчымасцю): так, камуністы, між іншым.

Дапусцім, будзе створаны ўрад „народнага даверу", дапусцім, ён будзе некамуністычны (зрабіць гэтае дапушчэнне падчас з'езда ніхто яшчэ не быў у стане). Ды ўсё роўна ўся адміністрацыя застанецца ў камуністычных руках. Калі думаць катэгорыямі дзяржавы перш за ўсё, выйсце з такога эвентуальнага тупіку можа мець толькі эвалюцыйны характар — праз палітычныя кампрамісы да незалежнай эканамічна і палітычна дзяржавы.

У гэтым уся логіка палітычна-эканамічных пераўтварэнняў у Цэнтральнай Еўропе. Логіка палітычнага рахунку, а не палітычнай лірыкі.

Ці Беларусь пакарыстаецца гэтым цэнтральна-еўрапейскім палітычным вопытам?

**Ян Максімюк**

# НАШЫ КАРАНІ

## VII. НА КРЫШТАЛЬНАЙ СТУГНЕ

Папярэдне мы меркавалі, што далучэнне ў гадах 981 — 983 здаўна хрысціянізаваных, з высокай культурай і заможных зямель сённяшняй Валыні, Падляшша і суседніх краінаў падмацавала хрысціянства ў Кіеўскай дзяржаве, а таксама ў пэўнай ступені паўплывала на князя Уладзіміра, які з таго часу ўсё болей пачаў адхіляцца ад язычаства і спрыяць хрысціянам. Вядома, такое духоўнае перараджэнне выдатнага дзяржаўнага дзеяча і палітыка не магло быць вынікам адной ці нават некалькіх падзей. Было яно перш за ўсё цудоўным узыходам зярнят навукі Хрыстовай, якія бабулька, вялікая княгіня Вольга, пасеяла ў ягоным сэрцы яшчэ ў маленстве. Было таксама вынікам частага заглядання ў нутро свае душы і пякучых дакораў сумлення ў дарослага мужчыны за грахі блуднага юнацтва, пралітую нявінную кроў і іншыя агідныя злачынствы, „яго душа шукала святла і супакою", — пісаў выдатны знаўца гісторыі Праваслаўя ва Усходняй Славяншчыне, архіепіскап Філарэт. Аднак, каб усё тое ўзрасло і закалілася шчодраю нівай, неабходнае было праяўленне Боскай волі, якую мы, людзі свецкія, часцей за ўсё называем збегам акалічнасцяў ці звычайнай выпадковасцю.

Розныя вучоныя спасылаюцца на разнастайныя падзеі, факты і акалічнасці, якія, на іх думку, канчаткова вырашылі аб прыняцці самім князем Уладзімірам Святога Хрышчэння і правядзення хрысціянізацыі ўсяе дзяржавы. Затрымаемся на самым пашыраным поглядзе, хоць не абавязкова яго можна лічыць найбліжэйшым гістарычнай праўдзе.

Улетку 987 года ў Кіеў нечакана завітала незвычайнае пасольства, бо ад самога візантыйскага імператара Васілія да князя Уладзіміра з просьбай вайсковай дапамогі супраць смяротнай пагрозы візантыйскаму пануючаму з боку ўзурпатара Барды Фокі. Кіеўскі князь абяцаў выслаць свае адборныя дружыны, але запатрабаваў выдаць за яго замуж адну з імператарскіх сясцёр, якая б дапамагла яму стаць праўдзівым хрысціянінам. Васілій абяцаў яму ў жонкі сваю сястру Анну, але таксама пры ўмове, што будучы швагер сам прыме Святое Хрышчэнне і ахрысціць свой народ, бо не было ў звычаі візантыйскіх імператараў сваіх дачок і сваячніцаў выдаваць за язычнікаў. Уладзімір згадзіўся на гэтыя ўмовы і папрасіў імператара прыслаць святароў дзеля пабагаслаўлення яго Таінствам Хрышчэння. У канцы 987 года з Канстанцінопаля ў Кіеў прыбыў мітрапаліт у суправаджэнні свяшчэннікаў і дыяканаў.

Урачыстасць хрышчэння адбылася ў рэчцы Стугне каля любімай вясковай вялікакняскай сялібы, што знаходзілася ў 36 кіламетрах на паўночны захад ад Кіева. Гэтая велічная ў гісторыі ўсходняга славянства падзея наступіла ў прысутнасці самых блізкіх князю асобаў і імператарскага пасольства, мабыць, у свята Богаяўлення (Эпіфаніі, Хрышчэння Гасподняга) у 988 годзе. Уладзімір прыняў хрысціянскае імя Васілій ад свайго хроснага бацькі — імператара Васілія, а княжацкая сядзіба на рэчцы Стугне з таго часу заімела назву Васілева.

Выкананне другога варунку: хрышчэнне ўсяе дзяржавы Уладзімір-Васілій адклаў напотым. Візантыя пагадзілася з гэтым, бо ўзурпатар Фока набліжаўся да Канстанцінопаля. І неўзабаве ратаваць трон Васілія рушыла ў Канстанцінопаль магутная дружына Уладзіміравых вояў, у якой, дарэчы, былі таксама воі з Падляшша.

**Мікола Гайдук**

# З ДРУКУ

## ПАТРАБАВАННІ МІНСКІХ РАБОЧЫХ

„З красавіка ў Мінску цярпенне народа лопнула. Была праведзена папераджальная забастоўка.

Мы прад'яўляем наступныя патрабаванні:

— павышэнне зарплаты і велічыні кампенсацыі насельніцтву рэспублікі прапарцыянальна розничным цэнам;

— адмена ў нашай чарнобыльскай рэспубліцы гарбачоўскага пяціпрацэнтнага падатку з продажу;

— вывад КПСС з прадпрыемстваў, дэпартызацыя ўсіх дзяржаўных структур;

— адстаўка Прэзідэнта СССР і саюзнага ўрада;

— роспуск З'езда народных дэпутатаў СССР, Вярхоўных Саветаў СССР і БССР;

— правядзенне новых выбараў у Вярхоўны Савет БССР на шматпартыйнай аснове;

— скарачэнне выплат ад прыбытку на 15 працэнтаў, выручаныя сродкі ад гэтага павінны пайсці на зарплату;

— скарачэнне кіраўнічага апарату на адну трэць і працаўладкаванне вызваленых людзей на рабочыя месцы;

— адмена прывілей для партапарату і ўсіх наменклатурных работнікаў;

— выдзяленне паўгадзіны часу на тэлебачанні для інфарміравання рабочых і каардынацыі дзеянняў працоўных калектываў з мэтай, каб не было стыхійных і неарганізаваных забастовак".

*Са зварота старшыні арганізацыйнага камітэта забастовачнага руху ў Мінску Георгія Мухіна*

*(„Народная газета" ад 5.04.1991 г.).*




## ЯК КУМА КУМЕ

Мікіта дзесяць гадоў пражыў з жонкай як Бог прыказаў. Пра чужых баб нават і не думаў. На вяселлі ў суседа сустрэў свайго сябру, які пайшоў у прымы ў другую вёску.

— О! Колькі год! — радасна крыкнуў Міхась. — Як жывеш, дарагі?

— Жыву добра, бо на сваім панадворку, а ты ў прымах. Напэўна на курэй гаворыш — вы.

— Яшчэ чаго! Такі сам панадворак жонкі, як і мой. А ты з кумой хадзіў на сена? — зусім нечакана для Мікіты спытаў Міхась.

— Што ты? Здурнеў? Жонкі хопіць.

— Вось чудак ты. Кот, калі адну дзірку пільнуе, то хутка здохне. З чужой бабай, вось дык прыемна. Ты паспрабуй калі.

З той пары Мікіта хадзіў сам не свой. Усё думаў, мо і праўда, што гаварыў сябра. Найбольш падабалася яму кума Зося, якая кумавала старэйшага сына. Стаў Мікіта хадзіць за ёю, намаўляў, каб сустрэцца на сене. Зося аднекалася, а пасля, калі абрыдла слухаць заляцанак, рашыла схітрыць.

— Добра, кум, сустрэнемся ў адрыне ў суботу, калі зусім сцямнее. Нават, як будзе дождж, то нам не пашкодзіць.

Мікіта задаволены ішоў дадому:

— Дам куме кілбасы. Дзве пары. Няхай мае.

Зося прыйшла да Палашкі, жонкі Мікіты:

— Слухайце, кума, што я вам скажу. Ваш мужык хоча сустрэцца са мной у адрыне. Я сказала, што прыйду, як будзе цёмна. Слухайце, кума, вы ідзіце да яго. Рана спытаеце, як ён сябе адчуваў. Толькі не адзывайцеся да яго ў адрыне.

Прыйшла субота. Мікіта доўга швэндаўся па панадворку. Калі сцямнела, узяў загадзя нарыхтаваныя кілбасы і пайшоў. Палашка за ім. Так і апынуліся ў адрыне.

Пачалі кахацца. Мікіта ўсё гаварыў, што добра сябе адчувае. На развітанне даў кілбасы.

Мікіта выйшаў, а Палашка бягом пабегла дадому.

У нядзелю варыць Палашка капусту з кілбасамі. Калі ўсе селі снедаць, Палашка пытае:

— Як табе, Мікіта, кілбасы смакуюць?

— Пытанне! Вядома, што смачныя.

— А як учора ў адрыне было?

Мікіта пачырванеў.

— Ну, не таіся. Раскажы. Балаяў сябе мужчына. — Усе бабы Мне кума ўсё расказала.

— Няхай яго ліха возьме! — лаяў сябе мужчына. — Усе бабы аднолькавыя. Падвёў мяне гэты Міхась, а Зося яшчэ ляпей дагадзіла.

**Аўрора**




**Я паходжу з даволі беднай сям'і. Бацькі мае жывуць на вёсцы, а я ў Беластоку. Наймаю невялічкі пакойчык, катушок, можна сказаць, і так жыву. Хаджу на работу на фабрыку. Мне 25 гадоў.**

**Калісь я думала, што як толькі прыеду ў горад, усе хлопцы кінуцца да мяне. Але вось заўважыла я, што два гады мінула, а на мяне ніхто асаблівай увагі не звярнуў. Праўда, у мяне тут няма занадта шмат знаёмых, але з сяброўкамі па працы я часамі некуды выходжу. Ды што з таго, калі на працы ў нас адны бабы (я працую на тэкстыльнай фабрыцы ткачыхай). Пачала думаць, у чым справа. Усё ж такі іншыя сяброўкі неяк маюць хлопцаў. Спачатку я думала, што гэта таму так у іх атрымоўваецца, што яны паходзяць з горада. У іх тут шмат знаёмых, нават яшчэ са школы. Большыя сувязі, дык і магчымасці большыя. Але пасля я вырашыла, што мае сяброўкі маюць у мужчын поспех таму, што яны багатыя. Апранецца, дык і выглядае, як лялька. Адна ў нас ёсць такая, што так ужо строіцца, так строіцца, дык і хлопцы за ёй чарадою.**

**Вырашыла я, што трэба задбаць пра сябе. Пашыць нешта новае, выглядаць модна. Думаю, што тады я нарэшце знайду сабе хлопца. А можа ты параіш мне што іншае, Сэрцайка?**

**Ніна**

Ніна! Ты крыху памыляешся пры ацэнцы сваіх сяброўак. Хлопец наогул калі закахаецца, дык найчасцей у дзяўчыну, а не ў яе вопратку. Дзяўчаты апранаюцца для дзяўчат, ну, і, можа, крыху для саміх сябе, каб быць больш самаўпэўненымі. Заўваж, калі ласка, што дзяўчаты, усур'ёз закаханыя, не апранаюцца амаль зусім. Здраджу табе таямніцу: не маюць на гэта часу праз сваё каханне. Ды й, зрэшты, вельмі моцна закаханыя наогул рэдка калі апранаюцца. Ну, калі ўжо трэба ісці да працы, дык пару ануч нейкіх мае, вядома. Але гэта будзе нейкая спаднічка, а можа штаны ці куртачка, якія падкрэсліваюць яе секс. І хопіць!

Справа тут, міленькая мая, не ў вопратцы, хаця густоўная вопратка, вядома, дзяўчыну не шпэціць.

Што рабіць, пытаешся, каб спадабацца хлопцу? Вядома, задбаць пра выгляд. Зрабіць добрую прычоску, задбаць пра рукі і ногі, маляваццa вельмі далікатна. Старацца ў вольных хвілінах адпачываць, каб выглядаць свежай і здаровай.

Але найважнейшае не ў гэтым. Трэба быць вясёлай, задаволенай з жыцця, бо мужчыны не любяць панурых, нешчаслівых жанчын. Не старацца браць іх на літасць і на свае няшчасці, а наадварот, расказваць ім нешта смешнае, можа часамі нават крыху абстрактнае, не пляткаваць на сяброўак.

Трэба старацца быць у адносінах да мужчын добрай сяброўкай, але незалежнай, свабоднай, не такой, што толькі чакае, каб скочыць да некага ў пасцель. Не старайся гвалтоўна знайсці хлопца, глядзі ў жыццё аптымістычна, а каханне прыйдзе так хутка, што не паспееш апамятацца, як сама будзеш выбіраць хлопца з цэлай чарады, ходзячай за табой.

**Сэрцайка**




**МАР'ЯН** (Ламжынскае ваяводства), 39 гадоў (выглядае намнога маладзей), невысокі, цёмны бландзін, католік. Жыве на вёсцы з бацькам, мае дом, добра механізаваную гаспадарку (10 гектараў). Хоча пазнаёміцца з дзяўчынай (можа быць з дзіцём), каталічкай (можа быць з Літвы ці Беларусі, якая ведае польскую мову).

**ЯЎГЕН** (Беласточчына), 29 гадоў. „Дзяўчына, — адгукніся! Чакае цябе высокі, стройны, някепскі хлопец з беластоцкай вёскі, нябедны, але якому не хапае сямейнага шчасця толькі з табою!"

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Шаноўны Астроне!

Сніцца калодзеж. У ім мая дачка, па грудзі ў вадзе. Я пры калодзежы стаю. У калодзежы драбіна, быццам бы я яе туды ўпусціла, каб дачку ратаваць. Але яна яе не хапаецца, толькі ў вадзе той хляпочацца. Я стаю і думаю: „Ну, канец, не дастану яе адгэтуль". У той момант калодзеж накрывае пакрыўка. Я стараюся ўсімі сіламі трымаць тую пакрыўку, каб яна не зачынілася, мне так цяжка, цісне яна мне руку. І прачнулася.

Другі сон. Вялікая зала. Я ў ёй стаю. Праз дзверы (чорныя) уваходзіць цяля — чырвоны бычачак. Прыглядаюся да яго. Уваходзіць і карова — таксама чырвоная. А я як бы і чакала гэтага. І прачнулася.

А вось сон маёй дачкі, пра якую сніўся мне гэты першы сон. Яна ў тэсцяў. На старых цёшчыных кроснах (цёшча ўжо даўно не жыве) тчэ ходнікі. А ніткі на кросны налажыў муж дачкі, мой зяць.

**Марыя**

Марыя! Што датычыцца першага сну, дык мог бы ён абазначаць нейкі прыбытак, поспех у справах і гаспадарцы. Непакоіць аднак той факт, што твая дачка стаіць у гэтым калодзежы па грудзі ў вадзе. А пасля цяжкая пакрыўка прыкрывала гэты калодзеж. Значыцца, будзе твая дачка мець нейкія клопаты, але ты ёй дапаможаш з імі справіцца.

Што датычыцца другога сну, дык і ён сведчыць аб тым, што ў вашых справах будуць нейкія промахі. За гэта гаворыць асабліва той бычок, які ўвайшоў праз чорныя дзверы.

Трэці сон гаворыць за тое, што твая дачка і яе муж „сатккуць" нешта разам.

**Астрон**




### САЛАТА З ФАСОЛІ

На 1 шклянку зваранай фасолі (дробнай) трэба ўзяць 15 дэкаў кансерваваных агуркоў, 10 дэкаў цыбулі, 3 зубкі часнаку, 20 дэкаў жоўтага сыру, 10 дэкаў сэлера, 10 дэкаў марынаваных сліў, паўшклянкі маянэзу, 3/4 шклянкі ёгурту, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі, соль, цукар, перац.

Маянез перамяшаць з ёгуртам, пасечанай зялёнай пятрушкай і расцертым з соллю часнаком. Дадаць солі, перцу і цукру. Кансерваваныя агуркі і марынаваныя слівы нарэзаць дробным макаронікам. Цыбулю абабраць, нарэзаць пер'ямі, адначасова пасыпаючы яе соллю, перамешанай з цукрам. Абабраны сэлер рэжам таксама, а сыр нарэзаць невялічкай костачкай. Усе падрыхтаваныя прадукты перамяшаць з соусам, дадаць, калі трэба, солі і перцу. Гатовую салату пераложыць у салатніцу і ўпрыгожыць кансерваванай папрыкай, марынаванымі грыбкамі і зялёнымі лісткамі пятрушкі. Падаваць з хлебам ці булкай.

### КАТЛЕТЫ З ГАРОХУ

На 30 дэкаў гарохавага пюрэ ўзяць 2 цыбуліны, 5 дэкаў шмальцу, 5 дэкаў цертай булкі, 1 яйка, 2 зубкі часнаку, соль, перац, майранак, 10 дэкаў тлушчу.

Закіпяціць дзве шклянкі вады, пасаліць яе, усыпаць гарохавае пюрэ ў парашку, перамяшаць і хвіліну падграваць. Густую гарохавую масу астудзіць. Абабраную цыбулю нарэзаць дробнай костачкай і падсмажыць на шмальцы (не занадта моцна). Цыбулю перамяшаць з гарохавай масай, дадаць яйкі, палавіну цертай булкі, расцерты з соллю часнок. Дакладна перамяшаць, дадаўшы солі, перцу і майранку. З падрыхтаванай масы зрабіць валік дыяметрам каля 8 см. Пасыпаць яго цертай булкай. Валік нарэзаць скрылёчкамі таўшчынёю каля 1,5 см. З гэтых скрылёчкаў рабіць круглыя, ці авальныя катлеты, мачаючы іх у цертую булку. Смажыць на патэльні з разагрэтым тлушчам. Падаваць гарачымі з памідорным ці грыбным соусам і салатамі.

**Гаспадыня**

# Зорка
## Старонка для дзяцей

Пімен Панчанка

### КРАСАВІЦКАЯ НАВАЛЬНІЦА

Небу цёмна-сінему і ветру
Скардзіліся чорныя палі:
— Сонцам мы вясновым
абагрэты,
А дажджу даўно ўжо не пілі!

І тады прыйшлі паважна
хмары —
Айсбергі падсонечных вышынь.
Гром у бубны гулкія ударыў,
Цішыню густую пакрышыў.

Я люблю часіну навальніцы,
Калі б'е пярун па ўсіх ладах
І злуюцца ў хмарах бліскавіцы,
Кроплі асыпаюцца на дах.

А струмені звоняць, нібы
струны,
Прагна п'е іх смяглая зямля;
Травы прарастуць, густыя руні
Забушуюць хутка на палях.

Адгулі грымоты і замоўклі.
Усюды шмат срабрыстых
ягад-рос
Елкі цемнагрывыя намоклі,
Сушаць вербы пасмы жоўтых
кос.

На зямлю блакіт праліўся —
лужын
Шмат блішчыць усюды, а
ў вадзе
Сонца промні зыркія варушыць,
Ніткі залацістыя прадзе.

У сетцы дрэў ідзе птушыны
мітынг —
У азоне спеў ярчэй грыміць.
А зямля абмытая дыміцца,
Дыхаючы поўнымі грудзьмі.

Насустрэчу ёй выходзяць
людзі:
— Сейбітаў, радзімая,
прымай! —
Я па ўсіх прыкметах бачу —
будзе
Сёлета багаты ураджай.

Юрась Свірка

### У БЛАКІЦЕ ЖАЎРУК

Прылятае ён першым
З далёкага выраю.
Але людзі гавораць,
Што гэта не так:
Ён у норцы зімуе,
Што крот яму вырые,
І жыве у крата,
Як вясёлы дружбак.

Не прасохне зямля,
Толькі зверху распарыцца.
У кустах і лагчынах
Залежыцца снег.
А жаўрук, як распяты,
Вісіць над папарамі, —
Толькі што перадаў
Сваю песню вясне.

У блакіце жаўрук,
І трымціць ён там гузічкам.
Ён не бачыць
Ні ўзмежкаў, ні крушань
сівых.
Мне здаецца,
Што ён разаб'ецца на друзачкі,
Застанецца глухою
Блакітная высь...

Абарвалася песня,
Бы сонцам падпалена,
І не хоча ў высокім блакіце
звінець...
Ён за новаю песняй
Ляціць на праталіны,
Бо не можа без песні
Да сонца ляцець.



Фота Я. Целушэцкага

Янка Целушэцкі

### ВЯСНОВАЕ

Вясна ішла з сонцам, цяплом. Першая зацвіла чаромха. Адзелася ў кветкі і старая вішня ў садзе. У голлі яе была добра чуваць пчаліная музыка. Спяшаліся расцвісці і маладыя яблынькі, быццам баяліся адстаць ад іншых дрэў.

І, нарэшце, у фіялетавыя, белыя і ружовыя ўборы прыбраліся кусты бэзу пад вокнамі. Яго пах стаяў у паветры і аж кружыў галаву.

Удзень усё наваколле звінела радаснымі птушынымі песнямі. У садах свісцелі шпакі. Дзесьці ў небе то пачынаў песню, то змаўкаў жаваранак. У лесе не змаўкала жаўна, спявалі дразды, кукавала зязюля. У кустах вербалозу заліваўся салавей...

Птушкі свішчуць, ціநькаюць, чырыкаюць, шчабечуць, вухкаюць, звіняць і абвяшчаюць:

— Пара гнездавання!

— Пара гнездавання настала!

— Дзе ты, мой дружа? Прыйдзі, разам саўём самае цудоўнае ў нашым жыцці гняздо!

Увесь свет, здаецца, поўніцца пахамі і гукамі. Усё наваколле спявае. Звініць чароўная песня — песня вясны.

Ілья Шахрай

### ЯК МОЖНА ПРАСЛАВІЦЦА

Жылі-былі два сябры: жвавае, здатнае на розныя штукі Вараня і крыху марудлівае Бусляня.

Неяк пасля дождждыку ў чацвер сябры сустрэліся і доўга моўчкі ўздыхалі ад няма чаго рабіць.

Першым загаварыла Вараня;

— Што б такое незвычайнае вытваррырыць, каб пррраславіцца, га? Тады б нас не папікалі, тады б нас паважалі... Як вядомых арррртыстаў!

Бусляня запярэчыла:

— Лепей наадварот — звычайнае, але штo-небудзь патрэбнае, добрае. А ты адразу — у артысты! Можа, табе белай варонай стаць захочацца?

Пры гэтых словах Вараня ажно падскочыла:

— Прррравільна! Прррравільна! Я — Белая Варона! А ты... ты будзеш Чорны Бусел! З „Чырвонай кнігі"! Вой, як нас ахоўваць будуць, даглядаць, шанаваць! І частаваць смачненькім!

— Хіба ж толькі ў казцы так можна ператварыцца?

Усхапілася Вараня, закрычала:

— Казкі! Казкі! Якія казкі! Абмяняемся пеpрр'ем, і ўсё тут!

І, не даючы Бусляняці з думкамі сабрацца, Вараня кінулася скубсці свайго сябра.

— А ты мяне дзёўбай, так зррручней будзе!

Скубуць яны, значыцца, адзін аднаго і пер'е ў асобныя кучкі складаюць. Айкаюць і войкаюць, але ж скубуць. Дзеля славы трываюць.

І што вы думаеце? Выскубліся дагала. Пі пуху на іх не стала, ні пер'я.

— Заррраз ляцім да доктара Айбаліта! Ён нам перрр'е пеpррасадзіць!

Ды дзе ты на абадраных крылах паляціш?

Прыціхлі сябры. Няўтульна неяк ім падалося, халаднавата. А тут яшчэ дождджык зацерусіў.

Пачалі яны паціхеньку енчыць, потым усё гучней, гучней. І вось загаласілі на поўны голас.

І зляцеліся птушкі з усяго наваколля, збегліся звяры прыручаныя і непрыручаныя, жывёлы свойскія і дзікія. Хто пацяшаецца, хто спачувае, хто дакарае.

Паклікалі бацькоў, паклікалі хуткую дапамогу.

Потым у лячэбніцы мясцовы Айбаліт доўга ім пер'е прырошчваў.

Вось так. Але ж лепей быць самім сабой і нікому не зайздросціць.

## Вучнёўская творчасць

### МОЙ СЯБАР

Мой сябар — верны друг,
Пойдзем у танцы ў круг.
З табой я пайшла б далёка,
Куды не сягае людское вока.
Там дзе ты — там і я,
Наша дружба — штодня.

Раіса Краўчук, VI клас,
школа ў Малінніках

### ВАСІЛЬКА

Мела маці сынка,
Зваўся ён Васілька.
Прыходзіў са школы
І гуляў даволі.
Пра вучобу
І слова не хоча паслухаць.
Маці просіць:
„Пачуць мне пра цябе,
што мілае для вуха..."
А ў дзённіку сыночка толькі
Смяюцца чырвоныя двойкі
і тройкі.

Ася Нікіцюк,
VI клас, школа ў Малінніках

### А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



*Колькі прадметаў на гэтым малюнку?*

Юрась Свірка

### А ЎСЁ Ж ВІНАВАТЫ І Я

А ўсё ж вінаваты і я:
Суладдзе ў прыродзе парушана.
Паменшала птушак сям'я,
І рыба бяздумна патручана.

Няма чым віну апраўдаць,
Сумленне маё зацярушана:
Баяўся адкрыта крычаць,
А толькі даводзіў нязмушана.

І я вінаваты у тым:
Без толку балотца асушана.
Напэўна, і ў слове маім
Трывога гучала прыглушана,

Што сосны трывожна шумяць,
Што ў лузе без кнігавак ціха,
Патрэбна было закрычаць,
А я, нібы птушачка, ціўкаў.



Беларускія гульні

### У ЗАЙЦА

**Апісанне гульні:** дзеці (зайцы) збіраюцца ў цесны кружочак. Адзін з хлопчыкаў, больш спрытны (хорт), становіцца пасярэдзіне і, паказваючы на кожнага таварыша, чытае па слову:

Мурашка, букашка,

Сонца, месяц...

— Дзе ты быў?

— У балоце.

— Што рабіў?

— Траву жаў.

— Дзе падзеў?

— Пад калодай.

— Хто ўкраў?

— Заяц.

— Хто зловіў?

— **Хорт.**

Пры апошнім слове ўсе зайцы разбягаюцца. Вызначаецца месца, за межы якога яны не бегаюць. Галоўная задача хорта — злавіць усіх зайцаў, якія ўцякаюць ва ўмоўленае месца.

**Правілы гульні:** хорт не павінен лавіць зайцаў на адлегласці трох крокаў ад умоўленага месца; зайцы таксама не павінны бегаць паблізу ад яго.

**Віктар Ендзебер'я**

### ЛЕС РУК

— Дарагія дзеці! Я, ваша настаўніца, хачу вас папярэдзіць: заўтра да нас прыедзе камісія. І мы павінны сустрэць яе ў поўным узбраенні... А ваша зброя якая?

— Веды! — хорам адказаў клас.

— Правільна, мае дарагія, — веды! А што трэба ведаць, калі на ўроку прысутнічае правяраючы? Найгалоўнае? Калі я задаю пытанне ў класе павінен вырасці лес рук. А каб мне арыентавацца, каго з вас пытаць, давайце дамовімся: правая рука дагары — ведаеце. Левая — не. Але, глядзіце, не рабіце, як у мінулым годзе, калі ўсе паднялі левыя рукі.

### БАЦЬКАВА РАДАСЦЬ

— О! Цуда-дзіця ў мяне расце, — каля ўласнага двара перад суседзямі выхваляўся Сымон Ільіч. Другога такога разумнага дзіцяці не знойдзеце. Ні ў раёне, ні ў вобласці, ні нават у рэспубліцы.

— Уявіце сабе! Хлопчык ніколі ўрокаў не вучыць — і вучыцца з грахом папалам. А калі б яшчэ і вучыў ён...

**Пераклаў з украінскай мовы В. Бабей**

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА






























Спецыяльна для „Зоркі" прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

# ПАРОДЫІ

## НЕПАЎТОРНЫ РАМАН

*Не паўторыцца дзень гэты больш,*
*Не паўторыцца больш гэты дождж,*
*Не паўторыцца сонца над краем,*
*Не паўторымся мы, дарагая.*

**Віктар Ярац**

Больш раман не паўторыцца наш,
Непаўторны на золку ваяж.
Не паўторыцца болей натхненне
Непаўторнага непаўтарэння.

Не паўторыцца сон залаты,
Не паўторышся, мілая, ты.
Не паўторыцца дождж, бліскавіца,
Прапанова мая ажаніцца.

Больш не паўторыцца — і не прасі! —
Мора і горы, прагулка ў таксі,
Смачны шашлык і шампанскага
пляшка...
Як жа табе, разумею я, цяжка.

Месяц не выгляне болей з-за хмар.
Скончыўся, любка, мой ганарар.
Больш не паўторыцца наша каханне.
Не забывай! Не крыўдуй!
Да спаткання!

**Янусь Малец**

## МІНІ-КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) празмерная чуллівасць, ненатуральнасць у паказе чаго-небудзь, уласцівая меладраме, 8) пагардлівая назва прадстаўніка пануючага класа капіталістычнага грамадства, 9) падлікі, разлікі або карысць, выгада, сэнс, 11) вучань VII—VIII класаў.

**Уніз:** 2) член манаскага каталіцкага ордэна „Таварыства Ісуса“, 3) дзяржава ў паўночна-заходняй частцы Афрыкі, 4) вузкі стальны брус, які замацоўваецца ў два рады на шпалах для руху цягнікоў, 5) алень з вялікімі рагамі (у самца), які водзіцца ў горных лясах Алтая, Забайкалля, Цянь-Шаня, 6) штат на поўдні ЗША, 7) мясцовасць на Беласточчыне з чыгуначным прыпынкам ля самай граніцы з БССР.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку змешчаную ў № 11. Упоперак:** сарабанда, ікра, арка, раб, сіла, елка, альтруіст. **Уніз:** банк, катаракта, парабелум, ядок, ікс, Ака, ігла, каса.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае Аляксандр Дабчынскі з Беластока.



# НІЎКА

АЛКАГОЛЬ = ДЭМАН,
ЖАНЧЫНА = ДЭМАН,
ЗНАЧЫЦЬ
ЖАНЧЫНА = АЛКАГОЛЬ.
МАНЬКА,
ІДЗІ
СЮДЫ!

Мал. Адама Сяменчука

## АНЕКДОТЫ АД ЧЫТАЧОЎ

Жанчына купіла шафу, прывезла яе дамоў і нават сама сабрала. А ўсё гэта без дапамогі мужа. Па вуліцы праехаў трамвай і шафа развалілася. Сабрала яшчэ раз і вынік аказаўся той самы. Звярнулася да суседа:

— Паглядзі, Вася, можа я дзесьці памылілася?

Вася ўважліва вывучыў інструкцыю, сабраў шафу. Праехаў трамвай і шафа развалілася.

— Зробім так, — гаворыць Вася, — я залезу ў шафу, пачакаю трамвая і пагляджу знутры, адкуль яна пачынае развальвацца.

Так і зрабілі. У гэты момант званок у дзверы, прыйшоў гаспадар.

— Вось малайчына! Шафу купіла, сабрала сама, — кажа муж і адкрывае ў шафе дзверы. — Здароў, Вася, а ты што тут робіш?

— Вось не паверыш, трамвая чакаю.

* * *

У рабочага спыталі:

— Хто лепшы, жонка ці любоўніца?

— Вядома, любоўніца. Жонка бурчыць, палучку забірае, а да любоўніцы прыйдзеш, тая пляшку паставіць...

Тое ж пытанне калгасніку:

— Безумоўна, жонка. За дзецьмі глядзіць, гаспадарку пільнуе. А як да любоўніцы пойдзеш, уся вёска пальцам паказвае.

*Даслаў В. Бабей з Мінска*

# Дзённік Івана Іванава, Маскавіціна

**23 СЬНЕЖНЯ 2190 ГОДУ.** Сёньня мой Дзень Нараджэньня. Мне споўнілася 14 год. Бабуля, па старым звычаі, зьпякла вялікі пірог. Уся наша радзіна сабралася за сьвяточным сталом. Прыйшоў і мой стрыечны дзед Ерафей. Ён вельмі цікавы чалавек, гэты дзед. Па-першае, ён — супрацоўнік нейкага этнаграфічнага музея, па-другое, яму ўсяго толькі сорак год, па-трэцяе, ён раз-пораз размаўляе на гэтай расейскай мове, якой зараз ніхто не карыстаецца, бо ёсьць усім зразумелая і больш сучасная беларуская, а па-чацьвертае, ён заве наш горад не Міскова, як усе людзі, а Масква, і кажа, што гэта яго старажытная назва. Дарэчы, усе нашыя сваякі ўважаюць дзеда Ерафея за расейскага нацыяналіста, але я не разумею, што гэта азначае.

**11 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** Сёньня ў школе быў скарочаны дзень — толькі адзін урок. Мне прыйшла да галавы дурная думка — спытаць у настаўніцы, ці сапраўды наш горад называўся калісьці Масква. Яна паглядзела на мяне як на хворага і потым паўгадзіны распавядала, што ніколі гэтай назвы не было, што заўсёды Расейскі народ імкнуўся ўзьяднацца з Ліцьвінскім народам, што Ліцьвіны амаль 200 год таму вызвалілі нас ад камуняцкага прыгнёту, што калі б не яны, дык мы і сёньня размаўлялі бы на гэтай дзікай расейскай мове і ня ўмелі бы размаўляць прыгожа — па-беларуску, што ніколі не далучыліся б да эўрапейскае супольнасьці народаў і гэтак далей. Потым яна спытала, адкуль я гэта ўзяў, але ў гэтую-ж хвіліну прагучаў званок.

**12 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** Урок літаратуры. Сяджу і, ад нуды, пішу гэты дзёньнік. Настаўніца распавядае пра клясыка ліцьвінскае літаратуры Багушэвіча. Мы яго ўжо два разы вывучалі ў малодшых клясах і я ўсё добра ведаю.

**15 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** Прыходзіў дзед Ерафей. Ён спытаў, як я вучуся. Я сказаў, што вучуся добра, а ўчора нават атрымаў „выдатна“ па ліцьвінскай літаратуры. Дзед Ерафей гэта ўхваліў, а потым спытаў, што я ведаю пра літаратуру расейскую. Я адказаў, што зараз у школе нам дазволена не вывучаць расейскую літаратуру (бо сапраўды, каму яна патрэбна?), і пабег на двор.

**23 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** Бачыў на вуліцы гурток людзей; яны размаўлялі па-расейску і, што самае сьмешнае, звалі сваю гутарку не „мова“, а „язык“! Яны стаялі каля ўваходу ў кінатэатр „Вільня“ з плякатам, на якім было напісана: „На гэтым мейсцы да 1997 году стаяў старажытны будынак міскоўскага Крамля“. Адна жанчына падыйшла да іх і спытала: „Ну, дык што з таго?“, а яны адказалі, што нібыта гэты будынак зруйнавалі Беларусы. І чаго ім не сядзіцца, гэтым „сознательным“?

**24 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** Сёньня на палітынфармацыі настаўніца сказала, што актывізаваліся расейскія нацыяналісты, але журналістка Т. Паперкавіч на старонках газеты „Вечаровая Місква“ дала ім жару. Потым усе ўголас чыталі гэты артыкул, але я вырашыў абавязкова спытаць у дзеда Ерафея, што гэта за нацыяналісты такія і чаго яны хочуць. Калі я прыйшоў дадому, бацька гутарыў з маці наконт таго, ці не зьмяніць нам прозьвішча „Івановы“ на прозьвішча „Янкоўскія“, бо на рабоце з бацькі сьмяюцца. Нарэшце было вырашана прозьвішча зьмяніць, але я сказаў, што Янкоўскім ня буду, бо ў нашай клясе ўжо ёсьць чатыры Янкоўскія.

**26 ЛЮТАГА 2191 ГОДУ.** У школе загадалі напісаць даклад па гісторыі на тэму: „Барацьба Вялікага князя Літоўскага Вітаўта за вызваленьне рассейскага народу ад прыгнёту міскоўскіх феадалаў“. Зараз сяджу і ня ведаю з чаго пачаць. Прагледзеў падручнік. Пра Вітаўта там шмат чаго ёсьць, а пра расейскі народ — нічога няма. І тут я ўзгадаў: трэба патэлефанаваць дзеду Ерафею.

. . . . . . . . . . . . . .

**На гэтым мейсцы ў нататках — вялікі перапынак. Апошні запіс датуецца 4 жніўня 2191 году. Ён складаецца ўсяго з трох словаў:**

**ДА ЗДРАВСТВУЕТ РОССИЯ!**

**(„Чарнобыльскі Вожык“, № 14)**

## Падайце голас!

Майстры хлусні і творцы
чуткаў,
Падайце голас, стукачы,
Хоць пакажыцеся з закуткаў.
Яшчэ ж надзейныя ключы

Ад сейфаў,
Дзе тамы даносаў
І карткі ўліку шчырых вас.
Яно не будзе носу зносу,
Што чуйна нюхае ўвесь час.

Дзе, можа, пахне змовай
нейкай,
А дзе на ўладу спее злосць.
У службе гнецеся капейкай,
Бо трыццаць срэбранікаў ёсць.

Не могуць глухнуць вашы
вушы,
Растуць, як кактусы, яны.
На небе, ў моры і на сушы
За рупнасць вам растуць чыны.

Не любіце цвяліць гусей вы,
Лепш ціхай сапай, пакрысе.
А што, як час расчыніць сейфы
І вы засвеціцеся ўсе!

**Рыгор Барадулін**
(„Вожык“)


# Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa"
ul. Suraska 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek, w których nie ma Oddziałów RSW, a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1991 r. upływa 20 maja 1991 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28. Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej:
— maj — 7.200 zł.
— czerwiec — 9.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11. Nr konta NBP O/O Białystok 5021-3203-132.

III. Кошт падпіскі ў БССР:
— месячная — 2 руб.
— квартальная — 6 руб.
— паўгадавая — 12 руб.
— гадавая — 24 руб.

Zam. 405/91